Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 21 (75) Нядзеля, 17-га Траўня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвесгак на 1 стар. — 15 гр.
за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр.
на апош. стар. — 5 гр.

## МЭМОРЫЯЛ

### Цэнтральнай Рады Беларускага Таварыства „Прасьвета" да Пана Міністра Рэлігійных Вераваньняў і Публічнае Прасьветы.

У разьвіцьці нацыянальнага беларускага жыцьця асабліва востра зазначаецца, а апошнім часам высунулася на першае месца—патрэба утварэньня нацыянальных школаў.

Дзеля гэтага выданьне ў 1924 годзе языковых законаў народ беларускі прывітаў, як адчыненьне шырокіх законных магчымасьцяў частковае рэалізацыі сваіх нацыянальных асьпірацыяў прынамсі ў галіне агульнага навучаньня ў матчынай мове.

Рахуючыся з гэтым, лёяльна настроеная да Польскага Гаспадарства і стаячая на грунце Конституцыі Польскае Рэспублікі часьць беларускага грамадзянства, з мэтай ахапленьня і наданьня арганізованнага характару акцыі тварэньня нацыянальных школ — выдзяліла з сябе спэцыяльную арганізацыю — „Прасьвету".

Настаўніцкі зьезд 18 — 19 сьнежня 1924 г., які ўконстытуаваў „Прасьвету", паставіў на чале сваіх жаданьняў утварэньне даадукавальных курсаў для беларускага народнага настаўніцтва ў мэтах спэцыяльнага падрыхтаваньня настаўніцкіх кадраў для будучых школаў. Згодна з жаданьнямі Зьезду, Цэнтральная Рада „Прасьветы" апрацавала спэцыяльную для вышэйназваных курсаў праграму прадметаў у межах беларусазнаўства, якая праграма была прадстаўлена ў Віленскі Школьны Кураторыюм дзеля зацьверджаньня 8 лютага бягучага году.

Выпаўняючы даручанае Зьездам, ,,Прасьвета" пачала стараньні аб адчыненьні курсаў. Адначасна з гэтым, стоячы, як гэта ўжо вышэй зазначана, на грунце зусім конституцыйным і поўнай лёяльнасьці да Польскага Гаспадарства—,,Прасьвета" прызнала патрэбным даць на гэтыя курсы гэткіх кандыдатаў, якія-б маючы ўсе іншыя кваліфікацыі на народнага настаўніка, адпавядалі яе ідэолёгіі. Выходзячы з гэтага, ,,Прасьвета" з ліку больш як 400 рэфлектантаў, выбрала адпавядаўшых вышэйсказаным вымаганьням толькі 93 кандыдатаў. І сьпіскі гэтых кандыдатаў, разам з дакумэнтамі, былі паданы па жаданьню Віленскага Школьнага Кураторыюму (13 лютага на 81 асобу, 28 лютага—10 асоб і 11 сакавіка—3 асобы) да гэтага Кураторыюму. Ня гледзячы на абяцаньне незабаўнага адчыненьня ўрадовых курсаў на 40 асоб у Вільні і гэтулькі-ж слухачоў у Выдгошчы альбо Кракаве, — што nota bene саўсім не адпавядае сапраўднай патрэбе, — справа гэтая дасюль яшчэ ня вырашана. Прынамсі ,,Прасьвета" ніякіх афіцыяльных інформацыяў аб лёсе гэтых курсаў не адтрымала, як гэтак сама нічога ня ведае аб лёсе паданае на зацьверджаньне праграмы беларусазнаўства.

Што патрэба ў гэткіх курсах зьяўляецца патрэбаю над'звычайна актуальнаю, навет палючаю, даказвае акцыя складаньня дэклярацыяў аб адчыненьні беларускіх школаў. Акцыя гэта, ня гледзячы на проста нячуваныя труднасьці, якія стваралі лёкальныя ніжэйшыя адміністрацыйныя органы, — аб чым неаднакроць пісалася ў прэсе беларускай і наагул краевай,—паказала, што справа адчыненьня беларускіх школаў зьяўляецца патрэбаю народных масаў. Усе спадзяваліся, што ўжо ўвосень будуць мець гэтыя школы, але таму што справа адчыненьня курсаў для настаўнікаў, па незразумелых проста повадах, недзе загразла і дасюль курсы ня пушчаны ў рух — справа адчыненьня школ ужо ў бягучым школьным годзе становіцца па меншай меры проблематычнаю.

Гэта стварае зусім непажаданае палажэньне. З аднаго боку — падкопвае павагу адзінае ў нас лёяльнае і стаячае на грунце Конституцыі культурна-прасьветнае арганізацыі, пазбаўляе яе даверыя масаў, а што йдзе за гэтым — робіць немагчымаю яе працу, аддаючы гэтым самым перавагу дэмагогічным уплывам і лёзунгам крайняга радыкалізму, з другога—вытварае атмосфэру, ў якой вось гэтыя лёзунгі і ўплывы знаходзяць у рэальных жыцьцёвых фактах сваё апірышча і апраўданьне. Бо ў масах будзіцца расчараваньне, губляецца вера ў шчырасьць інтэнцыяў Ураду й самую магчымасьць заспакоеньня элемэнтарных нацыянальных патрэбаў і правоў, Конституцыяй і спэцыяльнымі законамі загарантаваных, арганізована і саўсім легальнаю дарогаю.

На моцы гэтага, ,,Прасьвета" лічыць патрэбным яшчэ раз зьвярнуцца да Пана Міністра і аднавіць сваю просьбу датычна незабаўнага адчыненьня дэклярованых курсаў для беларускіх настаўнікаў, а таксама прасіць аб выданьні адносных распараджэньняў—у кірунку ўкарачэньня самаволі і бяспраўных выступленьняў адміністрацыйнае лёкальнае ўлады проці саўсім лёяльных з пункту гледжаньня права і шчыльна на законе абапёртых пачынаньняў ,,Прасьветы". У працiўным выпадку ,,Прасьвета" будзе змушана зляжыць з сябе ўсякую адпавядальнасьць за магчымыя пасьледзтвы. 14 траўня 1925 г. м. Вільня.

*(—) М. Косьцевіч*
Старшыня Бел. Т-ва „Прасьвета".

*А. Якімовіч*
Віцэ-Старшыня.

*М. Чыжэўская*
Сэкрэтар.

## Палітычны агляд.

Пасьля праваду кабінэту Эрыё ў Францыі шмат хто думаў, што левы францускі блёк пераживае крытычны момэнт. Гэткую думку, шмат хто выказваў і ў Францыі і за граніцай. Гэтую думку падмацоўвала перамога монархістых у Нямеччыне, праявіўшаяся выбарам у прэзыдэнты Гіндэнбурга. На гэты вызаў з боку Нямеччыны па адрэсе Францыі апошняя павінна была даць гэткі самы адказ, г. зн. прыпомніць, што ў Францыі ёсьць маршал Фош, пераможца Гіндэнбурга. Дзеля гэтага ўсе думалі, што кабінэт Пэнлевэ, ў які ўвайшоў Кайо, будзе мець толькі часовы характар. Гэткі часовы кабінэт быў у Францыі пасьля адстаўкі Пуанкарэ. Навет сам Пэнлевэ ня быў пэўны ў сваёй моцы перад выбарамі ў гарадзкія самарады, якія меліся выказаць настрой краю. Дзеля гэтага ўрадовая дэклярацыя, прачытаная ў законадаўчых палатах перад выбарамі ў гарадзкія і вясковыя самарады, была вельмі асьцярожная. Кабінэт Пэнлевэ не захацеў ясна паказаць свой палітычны твар, пакуль выразна ня выясьняцца адносіны да яго выбаршчыкаў. Муніцыпальныя выбары ў Францыі ад'значаюцца тым, што адбываюцца перыядычна адначасна ўва ўсім краі. У гэты час разьвіваецца сільная агітацыя, ня меншая чымся пры выбарах у законадаўчыя палаты. Амаль ня ўсе дэпутаты і сэнатары таксама выстаўляюць свае кандыдатуры і прават іх пры выбарах значна аслабляе іх моральна-палітычны аўторытэт. Дзеля гэтага на муніцыпальныя выбары ў Францыі з гэтага траўня была зьвернена агульная ўвага, дзеля таго, што ад іх залежаў лёс цяперашняга францускага ўраду. Калі-б левы блёк быў пераможаны на муніцыпальных выбарах, дык цяперашні левы ўрад пабачыў-бы, што ён ня мае большасьці і павінен быў-бы распусьціць парлямэнт ды назначыць новыя выбары, якія далі-б гэткія самыя рэзультаты, як і муніцыпальныя выбары. Дзеля гэтага апошнія выбары былі надта ажыўленыя. Усе партыі стараліся ўлажыць у іх яканайбольш энэргіі. Ішла гэткая самая, калі ня большая, энэргічная агітацыя, як у Нямеччыне перад выбарамі прэзыдэнта. А выбары апошняга толькі завастрылі палітычнае змаганьне ў Францыі. Францускія нацыяналістыя дамагаліся,

каб Францыя адказала на выбар Гіндэнбурга гэтак сама, г. зн. правалам левага соц.-радыкальнага блёку. І здавалася, што перамогуць нацыяналістыя. Але лятуценьні французкіх нацыяналістых ня зьдзейсьніліся. Ніхто ня мог загадзя ведаць настрояў французкіх выбаршчыкаў, якія праявілі сваю індывідуальнасьць, не рахуючыся з міжнародным палітычным палажэньнем. На выбарах 3 траўня левы блёк ня толькі не праваліўся, але навет шмат дзе перамог. Найбольшую няўдачу мелі камуністыя. Пры першых выбарах з 385 большых гарадоў выбары далі аканчальны рэзультат у 181 горадзе і ў 204 былі выбары дапаўняльныя. А ў 28 гарадзкіх самаўрадах ранейшая правая большасьць перайшла на бок левага блёку. Эрыё ў Ліоне адтрымаў шмат больш галасоў, чымся ў ранейшых выбарах, а наадварот камуністыя мелі поўную няўдачу, асабліва ў Парыжы і вялікшых прамысловых цэнтрах, на якія яны мелі надзею. У Парыжы не прайшоў павадыр усей французкай камуністычнай партыі Кашэн і інш. лідэры камуністычнае партыі, замест таго ўзмацаваліся, галоўным чынам, соцыялістыя. Дзеля гэтага французкія камуністыя, каб толькі не дапусьціць нацыяналістых, да перамогі, рашыліся на нябывалую ахвяру: яны запрапанавалі сваім выбаршчыкам, каб тыя галасавалі за соцыялістычных кандыдатаў.

Дзеля таго, што сэнатары ў Францыі выбіраюцца з сяброў гарадзкіх самаўрадаў, а ў апошніх левы блёк перамог і дзеля таго, што ў цяперашнім сэнаце большасьць левага блёку надта слабая і кабінэт Эрыё павінен быў пайсьці ў адстаўку, дык новыя муніцыпальныя выбары адразу ўзмацуюць палажэньне кабінэту. Пасьля з 10 траўня сэнат адмовіцца ад далейшай кампаніі проці левага блёку, які з муніцыпальных выбараў адтрымаў уражаньне, што большасьць французкага народу стаіць за яго. Гэтыя выбары даказалі, што французкі народ зусім згаджаецца з прымірыцельнай палітыкай Эрыё ў адносінах да Нямеччыны. Нацыянальны блёк хацеў правалiць сваіх левых праціўнікаў упадкам курсу франка і вялікімі падаткамі. Дык-жа ўсё гэта рэзультаты ранейшай палітыкі нацыяналістычных урадаў Окупацыя Руры прынясла Францыі больш шкоды, чым карысьці. Урэшце надта мала часу меў Эрыё, каб можна было вынясьці аб ім аканчальны прысуд. А што датычыцца яго вонкавай палітыкі, дык ён нічым ня розьніўся ад Пуанкарэ, калі не казаць аб прызнаньні савецкага ўраду і яго адносінах да камуністых. Яго палітыка перш за ўсё была строга нацыянальная (не нацыяналістычная!), якую будзе далей вясьці і Брыян і навет Кайо, якога, здаецца, несправядліва вінавацілі ў дзяржаўнай здрадзе і зносінах з немцамі ў часе вайны. І Пуанкарэ, і Клемансо, і Эрыё, і Пэнлевэ, і Брыян, і урэшце Кайо — перш за ўсё французы. І дзеля гэтага няма ніякае падставы баяцца, што Эрыё або Брыян будзе горш служыць сваёй бацькаўшчыне, чымся служыў ёй Клемансо, Пуанкарэ і Мільеран. Яны ад'значаюцца больш згодным духам у адносінах да сваіх суседзяў і асабліва Нямеччыны, а гэта можа вытварыць у Эўропе больш мірную атмосфэру.

*N.*

---

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

Роўненскі Акружны Суд вынес прыгавар па справе трох украінскіх паслоў, абвінавачаных у падбураньні насяленьня да проціdзяржаўнае дзейнасьці; пас. Чучмай засуджаны на 2 гады вастрогу, Васынчьук — на 1 год вастрогу і Казіцкі на 1 год карнага дому. Абаронцы засуджаных заявілі, што падaдуць апэляцыю. Паслоў па прапазыцыі абароны пакінулі на свабодзе: Чучмая пад залог у 500 зл., Васыньчука — 300 зл. і Казіцкага — 100 злот.

У сэкцыі палітычнага камітэту рады міністраў па справах нацыянальных меншасьцяў стаіць на парадку дня разгляд найбліжэйшых замераў ураду датычна ўсходніх ваяводзтваў Рэспублікі. Паміж іншым, у першую чаргу маюць быць парушаны справы адміністрацыі, школьніцтва славянскіх меншасьцяў (беларускае і украінскае), справа жыдоўскае гміны, а таксама справа адбудовы даўнейшае прыфрантавое паласы.

„Dzień. Wil." падае заметку, што беларускі пасол Міхал Кахановіч зрокся пасольскага мандату.

Адбылося паседжаньне соймавае камісii, якая ведае справамі тайных арганізацыяў. Была разгледжана справа Багінскага і Вечаркевіча. На паседжаньні былі прадстаўнікі ўраду. Нарада прызнана закрытаю і праз гэта ніякіх паведамленьняў прадстаўнікі прэсы не адтрымалі.

У Варшаву прыяжджаюць дэлегаты эстонскага ўраду і парлямэнту. У склад дэлегацыі ўваходзяць: міністар без портфэля Карусь Аст, два віцэ-прэзэсы эстонскага парлямэнту Юрман і Мартна і 6 дэпутатаў.

**За граніцай.**

У **Бэльгіі** стварыўся новы кабінэт міністраў на чале якога стаў Вандэрвівэр.

У **францускай** колёніі **Мароко** вядзецца вайна з племем кабілаў, якое выступіла пад павадырствам Абдул-Керыма. Французы паслалі туды дзьве паветраныя эскадры.

З **Букарэшту (Румынія)** паведамляюць, што **югаславянскі** міністар загранічных справаў Нінчыч заявіў прадстаўніком прэсы аб тым, што 5-я конфэрэнцыя **Малое Антанты** пачалася ў вельмі спагадных варунках. Просьба **Баўгарыі** аб пазваленьні агульнае абавязковае ваеннае павіннасьці і стварэньні рэгулярнай арміі Малою Антантаю адкінена.

Белградская прэса надрукавала зварот да ўсіх парлямэнтаў **баўгарскага** дэпутата-земляроба Велінова, які даводзіць, што ўрад Цанкова скарыстаў камуністычную небясьпеку для поўнага зьнішчэньня земляробскае партыі.

З **Парыжа** паведамляюць, што выканаўчы камітэт Соцыялістычнага Інтэрнацыяналу пастанавіў склікаць над'звычайную конфэрэнцыю прадстаўнікоў соцыялістычных партыяў на **Балканах**, на якой будзе пастаноўлена выслаць на Балканы спэцыяльную сьледчую камісію з Вандэрвэльда, Томаса Шоу і Фрыдрыха Адлера.

13 гэтага траўня новавыбраны прэзыдэнт **Нямецкае** Рэспублікі фэльдмаршал Гіндэнбург злажыў у будынку рэйхстагу ў Бэрліне прысягу на вернасьць констытуцыі.

У **Баўгарыі** засуджаныя на сьмерць віноўнікі ўзрыву ў софій-

---

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.

# ДРЫГВА

**драматычны эскіз ў 6-ёх абразох.**

АСОБЫ:

**Манька**, маладая прыгожая вясковая дзяўчына, нядаўна прышчэпленая на гарадзкі грунт.
**Юлька**, яе сястра, пазнаўшая ўжо ўвесь рэстаранна-вулічны бруд і засмакаваўшая ў ім.
**Міхалка**, малады хлапец, студэнт.
**Сьцяпан**, яго прыяцель.
**Лякдугна**, стары студэнт, бязвольны п'яніца.
**Гаспадыня** рэстарану.
**Галубоўскі**, музыка-гарманісты, бiўшы маленечкі «чыноўнік», безнадзейны п'яніца.
**Грышка**, тутэйшы «апаш».
**Тадорка**, хлапец з шавецкай майстроўні.
**Кэльнер**.
**Госьць I.**
**Госьць II.**
**Іншыя госьці. Музыкі.**

I.

На аднэй з вулачкаў Вільні невялічкі пролетарскі рэстаран, сьмярдзючы і брудны, як гэтыя вулачкі несканалізованага гораду, пануры, як душы людзей, страціўшых надзею лепшай будучыні.

У першым пакоі шафа з півам, буфэт з расстаўленымі на ім закускамі, абітыя клеёнкай століки, крэслы, на сьценах алькогольныя рэклямы-малюнкі. На сцэне **Гаспадыня** (за буфэтам), **Грышка** (пры адным са столікаў) і інш. госьці.

Праз адчыненыя дзьверы відаць другі пакой, дзе сядзіць **Лякдугна** з **Галубоўскім**, які грае на гармоніку і пяе.

І пянёндзуф ня хцяла, ня хцяла, ня хцяла,
А па дзбанка плакала, а па дзбанка плакала:
Мой зялёны дзбан, дзбан,
Цо го розьбіл тэн пан.

Ціхо, дзяўчына, ня плач, ня плач,
Я за дзбанка заплаца, я за дзбанка заплаца,
Я мільёны ці дам
За зялёны тэн дзбан.

Як заслона адчынілася праз нейкі час яшчэ чутно рэстаранны гоман і пяяньне **Галубоўскага**, пасьля дзьверы ад вуліцы адчыняюцца і ўваходзіць **Сьцяпан**.

**Сьцяпан** (*у дзьвярох клічучы кагосьці з вуліцы*). Хадзі! яшчэ рана! Хадзі, кажу табе, што не пашкадуеш!... Ну, зайдзем на адну мінюту, вып'ем сабе па бутэльцы піва і пойдзем дамоў... Ты толькі хадзі, паглядзі...

**Міхалка** (*уваходзячы*). Ня хочацца мне ўжо ані піва, а нічагусенькі! Змарыўся я, спаць хочацца...

**Сьцяпан.** Дык хадзі, кажу, на мамэнцік... Пабачыш толькі—і зьдзівішся... (*Да Гаспадыні*). Добры вечар, пані! (*Да Міхалкі*). Ну, што, дзе сядзем? можа тутака? (*сядаюць ля стала*). Ну, што будзем піць?

**Міхалка** (*слабавольна ўсьміхаючыся*). Ах, што ты, далібог, са мной робіш! Галава ад учарашняга яшчэ не ў парадку, а мы сягоньня п'ём ды п'ём...

**Сьцяпан.** Нічога! апошні дзень, міленькі, а заўтра — новае жыцьцё!

**Міхалка** (*іронічна*). Ах, ведаю я гэта «новае жыцьцё»!...

**Сьцяпан.** Не!... заўтра будзем цьвярозымі людзьмі, а сёняшні дзень трэба кончыць тут, з Манькай... Эх, пабачыш, якая дзяўчына!... Не дзяўчына — а кветка, васілёк! (*Да Гаспадыні*). Панечка! дайце нам... ведаеце?... маю порцыю...

**Міхалка.** Бачу, што цябе тут добра знаюць... Скуль-жа яна?

**Сьцяпан.** Нядаўна прыехала з вёскі... Сьвежанькая, чырвоненькая—яблычка райскае! А гэткая наіўненькая, сінявокая — васілёчак, кажу табе. Як гляджу на яе, здаецца, чую гоман каласістага жыта, пах палёў зялёных... Э, што казаць шмат!... сам пабачыш... (*Да Гаспадыні*). Пані! дзе-ж Маня?

**Гаспадыня.** Зараз прыйдзе, пайшла ў другі пакой...

**Міхалка** (*сьмяецца*). Ты—поэт! Хэ-хэ-хэ!...

**Сьцяпан.** Але... Далібог! Я не гляджу на яе вокам мужчыны, а толькі вокам поэта...

**Міхалка** (*іронічна сьмяецца*).

**Манька** (*уваходзіць з другога пакоя. Ідзе да буфэту. Гаспадыня нешта ёй кажа. Яна бярэ бутэльку, выцірае чаркі, прыгатаўляе закуску на стол, дзе сядзяць* **Сьцяпан** *з* **Міхалкай**).

**Сьцяпан** (*да Міхалкі*). Далібог! Ня сьмейся! Табе мо' здаецца, што я кажу гэта цынічна, а ў мяне ў гэты момэнт душа, як у новароджанага дзіцяці... Далібог!

**Міхалка** (*як раней*). Хэ-хэ! Нашто казаць пустое! Я ведаю, хто ты, а ты таксама добра знаеш мяне...

**Сьцяпан.** Але... Але я кажу табе зусім шчыра, што на Маньку я гляджу інакш, як на іншых дзяўчат. Яна... яна мае ў сабе нешта з Форнарыны... Памятаеш?... Рафаэль — і простая дачушка нейкага пекара, нейкая Форнарыначка... А ён што з яе зрабіў?! Хто сёньня на сьвеце ня ведае прыгожасьці Форнарыны?

**Манька** (*ставіць на іхні стол бутэльку, чаркі і т. п.*).

**Сьцяпан.** А — вось і яна — наша цукерачка! Наша Манечка даражэнькая! (*Да* **Міхалкі,** *узяўшы Маньку за руку*). Га? што? праўду я казаў? — Кветка! вішанька! цукерачка!

скім саборы ўсе апрача званара публічна будуць павешаны на пляцы ў сталіцы.

З **Мэксыкі** паведамляюць, што на прэзыдэнта рэспублікі Калеса быў зроблены няўдачны замах. Да яго прыйшла прасіць аудыенцыі маладая жанчына Янгурэй. Яе затрымалі, як падазронную асобу, на парозе прэзыдэнцкага кабінэту. Пры дапросе яна заявіла, што хацела забіць прэзыдэнта, каб спыніць спрэчку паміж цэрквою й дзяржавою.

«Роста» (расейск. тэлегр. аген.) паведамляе, што Барыс Савінкоў, даведаўшыся ад вастрожнае адміністрацыі аб немагчымасьці перагляду яго працэсу, кінуўся ўніз з вакна пятага паверху й загінуў. У пакіненым пісьме ён піша, што, па прычыне недаверыя да яго радавае ўлады, ён выбірае сабе сьмерць.

# Агляд прэсы.

Трагічнае здарэньне ў польскай гімназіі ім. Лелевэля ускалыхнула ўсё віленскае грамадзянства і знайшло одгукі ўва ўсёй мясцовай прэсе. „Słowo" ў перадавым артыкуле м. інш. піша:

Наша школьная справа на дрэнным шляху. Тыя, хто ею кіруюць, ня хочуць або ня могуць уцяміць, што дзе-як-дзе, але ў нас цяпер у школе трэба больш быць дбалым аб пэдагогічны мэтод, чымсь аб... прынцып! Мёртвы і бясплодны будзе навет найлепшы прынцып, калі грунт, на якім ён мае разрастацца, яго ня церпіць. Можа надта разумных прысылаюць сюды нам прафэсароў, але дрэнныя з іх пэдагогі. Пэдагогіка гэта жывая рэч. Трэба яе датарноўваць да жыцьця, а не наадварот: упіхаць жыцьцё у хітра выдуманыя, непарушныя фэрмулы пэдагогікі. Нічога ня варта школа, якая ўсюды аднолькава ўводзіць адну і тую самую мэтоду...

Украінская часопісь „Дзвін" піша аб сучасным палажэньні:

І ўсюды, куды толькі кінеш вокам, пабачыш і пачуеш, што законы і загады не спаўняюцца, парадак ламаюць адказныя і безадказныя прадстаўнікі ўлады, каторыя быццам знарок усё робяць, каб толькі ніякага парадку і спаўненьня законаў ня было, каб насяленьне абуралася проці ўлады і дзяржавы, у сваім абураньні тварыла фэрмэнт, даходзіла да роспачы, і заламаўшы рукі рвала духовы і фізычны зьвязак з дзяржаўнасьцю, якая завецца польскай дзяржаўнасьцю...

Па ўсёй лініі нашага нацыянальна - рэлігійна - культурнага фронту ідзе фэрмэнт, чутно нездаволеньне і няверые ў украінска-польскае паразуменьне. Пропасьць усё шырэй ды шырэй раскопаваецца...

Ці ня тое самае могуць сказаць і беларусы аб адносінах да іх улады і аб беларуска-польскім паразуменьні?

# Ад Прэзыдыуму Часовай Бел. Рады.

У № 33 „Беларускай Долі" зьявілася пісьмо п. Канапацкага, як адказ на камунікат Прэзыдыуму Ч. Б. Р. ад 26-IV г. г.

Прэзыдыум з прыемнасьцю канстатуе пэўную шчырасьць п. Канапацкага, які сам прызнае праўдзівымі паданыя ў гэтым камунікаце аб'ясьненьні запраўдных мотываў выхаду з Рады яго і „солідарных" з ім п. п. Бэкіша і Лапы - Старжэнецкага (як сам прызнаецца п. Канапацкі з канечнай мэтай зрыву Рады). Толькі адзін факт п. Канапацкі прызнае няпраўдай, а ласьне ён піша: «нарэшце што зусім няпраўда— гэта, што справаздача давалася, а асабліва справаздача грашовая, бо ад расколу Рады г. е. ад 10.II да 16.IV не вызначалася і не адбылося а ніводнага паседжаньня Прэзыдыуму".

Для характарыстыкі „праўдзівасьці" гэтых слоў п. Канапацкага, Прэзыдыум заяўляе, што ад 10.II да 16.IV, з удзелам гэтых асоб адбылося 12 паседжаньняў Рады і 4 Прэзыдыуму і прапануе кожнаму цікаваму аглядзець 2 пратаколы паседжаньня Прэзыдыуму ад 25.II і 2.III, на якіх пратаколах маюцца ўласнаручныя подпісы пп. Канапацкага і Бэкіша. Апроч таго на паседжаньні Прэзыдыуму ад 2.III першым пытаньнем стаяла грашовая справаздача п. Старшыні, якая і была прынята да ведама (пратакол гэты ня толькі падпісаны, а навет напісаны ўласнаручна самім п. Бэкішам).

Прэзыдыум констатуе, што гэтыя словы пп. сэцэсыяністаў зьяўляюцца ня толькі няпраўдай, а навет клеветой (як распаўсюджаньне заведама ложных фактаў у прэсе) і заяўляе, што спыняе на гэтым усялякую полеміку, ўважаючы, што беларускае грамадзянства ўжо дало сваю належную ацэнку „праўдзівым" заявам вышэйпаданых асоб, якія заявы можа друкаваць толькі адна спэцыфічная і гэтак-жа „праўдзівая" „Беларуская Доля".

*Прэзыдыум Ч. Б. Рады.*

# Жыцьцё провінцыі.

**Цуд крэсовага „самаўраду".**

У нашым мястэчку **Сіняўцы** 23. IV. адбыўся ў прысутнасьці п. самаўрадавага інспэктара з Несьвіжу конкурс на валасную почту.

Па конкурсу концэссія на почту дасталася мясцоваму жыхару Рачкоўскаму на варунках з платай яму — Рачкоўскаму — па 1 п. 9 ф. збожжа за каня ў дзень. Характарна зазначыць, што папярэдні гаспадар почты Тарабур Аарон адтрымліваў за тую-ж самую почту па 4 п. за каня (!)

За воласьцю ёсьць цяпер доўг ў $2^1/_2$ тысячы пудоў Тарабуру, які цягне ў суд Валасную Раду. Праўда мясцовага войта аддалі пад суд- але гдзе-ж увесь гэты час быў Паўвятовы Соймік і што ён глядзе" бо вядома-ж, што ніводная пастанова Валасное Рады ня мае моцы без зацьверджаньня яе Соймікам.

**Сіняўскі.**

**Гуртог „Прасьветы" ў м. Ушы,**
*Вялейскага павету.*

10-га гэтага траўня грамадзянамі Радашкаўскае і Красносельскае валасьцяў, Вялейскага павету на сходзе ў м. Ушы заложаны гурток Беларускага Таварыства «Прасьвета». Старшынёю Гуртка выбраны грам. Тодар Вярнікоўскі. Апрача яго ў управу гуртка ўваходзяць грамадзяне: Сыльвэстар Маліноўскі, Андрэй Балаш, Мікалай Мяцеліца і Мікалай Усьціновіч.

**В. А.**

# ПА СЬВЕЦЕ.

**Амэрыка адкрыта была да Колюмба!**

Нядаўна ў Копэнгагэне ў Акадэміі Навук зрабіў цікавае выступленьне дацкі вучоны Софус Лярсэн. Яму ўдалося знайсьці дакумэнты за 1473 год, з якіх відаць, што Амэрыка да Колюмба была адкрыта датчанінам Янам Скольюсам. Паводле гэтых дакумэнтаў, дацкі кароль Хрысьціян I па ініцыятыве партугальскага караля Альфонса V ў 1472 годзе выслаў пад кіраўніцтвам Сколюса экспэдыцыю, якая мела задачу адкрыць на Паўночнаатлянтычным акіяне новыя астравы і краі. І ў гэтай якраз экспэдыцыі Сколюс адкрыў паўночна - амэрыканскі контынэнт, назваўшы яго Torks landet.

---

**Манька** (*засароміўшыся вырывае сваю руку з рукі* **Сьцяпана**). Ды кіньце!...

**Сьцяпан.** Маня! (*Паказваючы на Міхалку*). Гэта вось мой найлепшы друг—Міхалка! Сядай, душачка, з намі—вып'ем, пагутарым... Ведаеш, мы з Міхалкай ужо другі дзень п'ём, як гыпопотамы.

**Манька** (*саромліва апусьціўшы вочы*). Ня трэба піць, — гэта брыда...

**Сьцяпан** (*сьмяецца*). Ня трэба — кажаш — піць? — ха-ха-ха! Ах, ты мая каханенькая, дурненькая!... Ну, але цяпер ужо апошні дзень!... І ты сядай з намі, бо мы зрабілі пастанову, каб гэты дзень скончыць з табой... Эх! (*пяе*). «Апошні сёняшні дзянёчак, гуляю з вамі я, браты!»...

**Манька.** Цяпер не магу, ня маю часу... але я зараз прыйду. (*Ідзе да буфэту, забірае нейкае судзьдзё і нясе у другі пакой*).

**Міхалка** (*гарачымі вачыма глядзіць ёй у сьлед*).

**Сьцяпан.** Ага! заглядзеўся!... Што? га?... а не хацеў ісьці!... Шкадуеш цяпер, што паслухаўся мяне і зайшоў сюды?

**Міхалка.** Прыгожая дзяўчына! Скуль яна тутака? Даўно?

**Сьцяпан.** Пачакай, я табе зараз усё раскажу, бо я ведаю... Яна сірата. Жыла на вёсцы ў цёткі. У цёткі сваіх дзяцей, як бобу. Ня толькі хлеба, але мякіны не хапала, каб пракарміць усю гэтую гараву... А старшая яе сястра, Юлька, ўжо даўно тут у нейкай піўной служыць. Вось цётка й думае сабе: Юлька ў Вільні паненкай, у капялюшы ходзіць, жыцьцё хваліць, ну дык давай і гэтую павязьлі ў горад: хай паненкай будзе, на лёгкае жыцьцё ідзе... Эх, людзі!... А яна, бачыш, дзяўчына яшчэ вельмі маладая і саромлівая. Ей і падабаецца гэта іншае, новае, гарадзкое жыцьцё і пужаецць аднач асна. Ей і весела тут, дзе гэтулькі розных людзей штодня пераліваецца, і аднача сна сумна аднэй, бяз блізкай душы, без заступніка, дзе кожны лёгка можа скрыўдзіць, дзе п'яная гутарка не шкадуе саромлівых вушэй дзявочых... Вось як! Але яна ня першая і не апошняя... Усё гэтак... А ўсё-ж шкада!... (*страсянуўшы з сябе часовы налёт сумнай думкі*). Ну, ўсё роўна!... (*кліча*): Манечка! Дзе-ж ты?

**Манька** (*ідзе з другога пакою*). Іду ўжо.

**Сьцяпан.** Ну, вось яна... Сядай-жа з намі, мая даражэнькая, харошанькая, бо нам без цябе сумна.

**Манька.** Э, пан заўсёды сьмяецца.

**Сьцяпан.** Далібог, не сьмяюся... Ну, сядай! Чаго вып'еш? Гарэлку будзеш піць, анёлачак?

**Манька.** Фі! я ня люблю гарэлкі... Хіба нешта салодкае...

**Сьцяпан.** Салодкае? Добра. Зараз будзе салодкае. (*Ідзе да буфэту*).

**Міхалка** (*да Манькі*). Як-жа ж паньне Мані падабаецца тут?

**Манька.** Нічога...

**Міхалка.** Весела? Гасьцей шмат?

**Манька.** Не заўсёды... Есьць іншыя далікатныя, а іншыя надта прыстаюць.

**Міхалка.** Хэ-хэ! Прыстаюць, бо панна Маня надта прыгожая дзяўчына.

**Манька.** І пан жартуе. Такая я, як і іншыя.

**Грышка** (*праз увесь час ня спушчаў з* **Манькі** *вачэй. З таго часу, як яна падсела да століка, дзе сядзяць* **Сьцяпан** *з* **Міхалкай**, *яго вочы заблішчэлі вагнём зайздрасьці. Цяпер пачынае нэрвова званіць шклянкай аб бутэльку*).

**Манька** (да **Міхалкі**). Выбачайце, я зараз... (*ідзе да* **Грышкі**).

**Грышка** (*хапае яе за руку, ціха*). Я не хачу, каб ты там сядзела, чуеш? Я хачу, каб ты была тут, каля мяне!

**Манька** (*таксама ціха*). Вось яшчэ чаго! Чаму-ж гэта? Дзе захачу, там і сядзець буду.

**Грышка** (*горача*). Слухай, кінь, прашу цябе, не сядзі з імі, бо мне ажно ў грудзёх тут нешта лапоча... Кажу табе!..

**Манька.** Вось яшчэ якая хванабэрыя!.. Што хачу, то й раблю!.. (Варочаецца да **Міхалкі**).

**Грышка** (*грозным шэптам ёй у сьлед*). Папамятаеш!..

**Сьцяпан** (*варочаецца да століка*). Ну, сядайма, і будзем піці, есьці, весяліцца!.. (*ставіць на стол новую бутэльку*). Вось для цябе, Манечка, салодзенькая, а для нас хай будзе чара горкая, якую вып'ем сёньня да дна.

**Міхалка** (*усьміхаючыся іронічна*). А заўтра — новае жыцьцё?

**Сьцяпан.** Але! Заўтра новае жыцьцё! А сягоньня чаркі ў рукі!.. (*пяе*):

Вып'ем за радасьць, вып'ем за шчасьце,
Вып'ем за нашую долю.
Каб наша доля нас не цуралась,
Кабы нам добра жылося.

Гэй-жа вы, хлопцы, добры малойцы,
Гэтак чаму-ж пасмутнелі?
Ці-ж у шынкаркі мала гарэлкі,
Мала гарэлкі ды піва?

*У часе гэтай песьні з другога пакою высоўваецца* **Лягдугна**, *за ім з гармонікам пакорна йдзе* **Галубоўскі**. *Лягдугна падпявае, Галубоўскі пачынае акомпаньяваць на гармоніку.*

*(Працяг будзе).*

